**Ромуальд Земкевіч.**

# ЯН БАРШЧЭЎСКІ

## ПЕРШЫ БЕЛАРУСКІ ПІСЬМЕНЬНІК XIX СТАЛЕЦЬЦЯ.

(УСПАМІН У 60-ЛЕТНЮЮ ГАДАУШЧЫНУ СЬМЕРЦІ).





ВІЛЬНЯ.
Друкарня Марціна Кухты, Татарская, д. № 20.
1911 г.



# Ян Баршчэускі, першы беларускі пісьменьнік XIX сталецьця.

*(Успамін у 60-летнюю гадаўшчыну съмерці).*

Некалісь багатая беларуская пісьменнасць у XVII і XVIII сталецьцях пачынае хіліцца да поўнаго упадку. Апроч палітычно-соціальных варункоў і ізоляцыі вышэйшых station ад народу прычынай гэтаму паслужыла і штучная ня чыста народная мова, ў каторай пісаліся і друкаваліся ўсе кніжкі. Выходзячы з думкі, што пісаць і друкаваць можна толькі ў гэтай мове, ў каторай напісано Сьвятое Пісьмо (Біблія), старые беларускіе пісьменнікі самі прычыніліся да упадку свайго народу, а прынамсі да упадку сваей інтэлігенціі. Мова ужываная у кніжках была штучнай дзеля таго, што складалася з цэркоўна-славянскай мовы (праўдзівей кажучы, стара-балгарскай), да каторай увайшлі цэлые словы і звароты жывых моў: беларускай, украінскай і польскай. Разумеецца, што мова так штучна апрацаваная не магла служыць душэўным патрэбам беларускаго народу, асабліва людзям простым, не вучоным. Дзеля таго павінна была яна раней ці пазьней уступіць мейсцэ чыста народнай, ўсім зразумелай, гутарцы. Гэты жыцьцёвы працэс замены моў бачым ў другой палавіне XVIIIсталецьця, калі базыльяне, езуіты і піяры пачынаюць ўсё больш і больш ужываць чыста народнай гутаркі ў казаньнях для простаго люду. Памалу паяўляюцца ў гэтай мове друкаваные кніжкі, як казаньня, кантычкі і малітвы. Апроч гэтаго езуіты у сваіх школьных драмах і камэдыях пачынаюць выводзіць на сцэну і простаго беларускаго селяніна з яго гутаркай. Такім вось спосабам беларуская народная мова памалу здабывала сваё права ў жыцьці. Раз быў пачатак зроблены, можна было чэкаць, што знойдуцца і народные песьняры і пісьменнікі. Так і сталося.

Першым беларускім пісьменнікам у XIX сталецьці трэба лічыць не Манькоўскаго, катораго Енеіда зрабілася вядомай шырэйшаму грамадзянству толькі пасьля 1830 года, а Яна Баршчэўскаго, якога першы верш, напісаны ў 1809 гаду, зрабіў яго



**Ян Баршчэўскі над берэгам рэкі Невы ў Пецербурзе.**

шырока вядомым песьняром у Паўночнай Беларусі. Радзіўся Баршчэўскі ў 1790 гаду ў Морагах каля возера Нешчодра ў Вітэбшчыне. Быў ён сынам беднаго засьцянковаго шляхціца. Маладым




хлопцам аддаў Баршчэўскаго у езуіцкую колегію, яго родны бацька. Баршчэўскі вучыўся надта добра ў школах. Кожнае лето прыежджаў ў вёску, дзе усе яго вельмі любілі. Ніводнае вясельле,

імяніны і другіе тым падобные сьвяты не абыйшліся без Баршчэўскаго, каторага усе ахвотне прасілі. Не было кірмашу, на каторы бы Баршчэўскаго не пацягнулі. Ўся засьцянковая шляхта любіла Баршчэўскаго за мілы, вясёлы характэр і за вершыкі, каторые ён складаў пры кожнай першай лепшай нагодзе. Шляхта гэта, лічучы сябе палякамі, гаварыла паміж сабой больш па беларуску чым па-польску. Аб гэтым сьведчыць і Чэчот *) і Рыпіньскі **). Папулярнасць твороў Манькоўскаго, Баршчэўскаго і другіх паказывае ясна, што ўсе гэтые творы былі патрэбны, што яны вельмі цікавілі ўсіх і як можэм бачыць ў этнографічных зборніках, увайшлі ў народ і зрабіліся чыста народнымі творамі. Першым беларускім вершам Баршчэўскаго была песенька: *Ах, чым жэ твая, дзеванька, галоўка занята.* Вершык гэты напісаў Баршчэўскі у 1809 гаду закахаўшыся ў панначку Максімовічоўну. Калі ён напісаў гэты вершык, пэўне і ня думаў, што ён зробіцца так популярным і пераходзячы з вуст да вуст захаваецца доўга ў памяці людзей. Чым скончылася яго любоў да панны Максімовічоўны—німа ведама. Мусі быць людзі і час зьмянілі ўсё. У 1812 гаду бачыў Баршчэўскі вялікую вайну з Наполеонам і барбу мужыкоў па лясох з уцекаючымі французамі. Вось пад ўплывам гэтых здарэньнёў напісаў Баршчэўскі верш: *Рабункі мужыкоў*. Верш гэты разыйшоўся ў спісках па цэлай Беларусі.

Скончыўшы школы у Полацку маніўся Баршчэўскі паехаць да унівэрсытэту ў Вільні. Не маючы можнасьці зрабіць гэта, ён пачаў працаваць як дамовы вучыцель у багатых дамах. Сабраўшы трохі грошы паехаў ён да Пецербурга. Напаткаўшы тамака знаёмых, праз іх дастаў мейсцэ у марскім ведамстве, дзе пачаў служыць. Але мейсцэ гэта пакінуў хутка і пачаў ізноў вучыцельскую працу. Праца гэта дала яму нейкую матэр'яльную незалежнасць.

Ў Пецербурзе пазнаёміўся Баршчэўскі з Міцкевічем, а пасьля і з Шэвчэнкай. Знаёмасьці гэтые мелі вялікі ўплыў на літэратурную творчасць Баршчэўскаго. Баршчэўскі гуртуе каля сябе у 1840 гаду маладзеж і пачынае выдаваць рочнікі-альманахі. Альманах Баршчэўскаго «Niezabudka» выхадзіў ад 1840 да 1844 г. Выйшло гэтаго 4 томы. Альманахі гэтые крытыка прыняла вельмі прыхільна. Найважнейшай працай Баршчэўскаго ёсць „*Szlachcic—Zawalnia czyli Białoruś w fantastycznych opowiadaniach*“ (Petersburg 1844—1846). У перадмове гэтай кніжкі шмат цікаваго аб беларускай літэратуры напісаў Ромуальд Подбэрэскі. Кніжка складаецца з самых народных беларускіх апаведаньнёў і легенд, каторые сабіраў Баршчэўскі праз усё сваё жыцьцё. Крытыка да самай кніжкі аднеслася надта прыхільна ***), перадмову Подбэрэс-

*) Piosenki wieśniacze z nad Niemna i Dźwiny. Wilno 1846 стр. V.
**) Białoruś. Paryż 1840. стр. 112, 202.
***) Bibliotəka Warszawska 1844, том I, стр. 229—231.

каго аднак моцна згудзіла за лішне вялікую самапэўнасць *). Усе гэтые творы Баршчэўскаго напісаны былі ў польскай мове, дзеля гэтаго, што па беларуску друкаваць не пазвалялі. Баллады, апісацельные вершы Баршчэўскаго, а так сама і «Szlachcic Zawalnia» так і просяцца каб іх перэлажыць на беларускую мову, бо ўсё гэта узято жыўцом з беларускаго жыцьця і у польскай літэратуры не мае і ня будзе мець такого вялікаго значэньня. З твороў Баршчэўскаго пісаных па беларуску маем толькі два вершыкі, друкаваные у альманаху Подбэрэскаго «Rocznik Literacki» (Petersburg 1843 стр. 216): *«Да чым жэ твая, дзевэнька, галоўка занята»* і *«Гарэліца»* і адзін ня поўны: *«Рабункі мужыкоў»* у перадмове Подбэрэскаго да кніжкі «Szlachcic Zawalnia» (стр. XXVIII—XXXII). Аб гэтым вершу „Рабункі мужыкоў“ пішэ і Александэр Рыпіньскі у сваей кніжцы: *Białoruś* (Парыж 1840) і падае нават колькі строф не друкаваных у Подбэрэскаго (стр. 204,107 і 208). Аб беларускіх творах Баршчэўскаго так пішэ польскі крытык і гісторык Юльян Бартошэвіч: «Вершы Баршчэўскаго расходзіліся па усіх руках. Умелі іх на памяць дзеткі, а няньки пеялі пры калысках песьні Баршчэўскаго, каторы зрабіўся праўдзіва популярным і едзіным песьняром сваей Украіны» **).

Пад канец жыцьця Баршчэўскі пераехаў да Цуднова на Валыні, дзе жыў ў графіні Ржэвускай. Там жыў колькі гадоў аж да сьмерці, каторая наступіла 11 сакавіка 1851 года.

Значэньне творчасьці Яна Баршчэўскаго для беларускай літэратуры важнае тым, што ён яўляецца дальшым зьвяном таго ланьцуга пісьменнікоў, каторые ешчэ у XVIII сталецьцю пачалі працаваць для народу. Творы Баршчэўскаго як бы сабе ні было разыйшліся у народзе і прыгатавалі грунт для будучых беларускіх пісьменнікоў. Баршчэўскаго трэба лічыць за першаго беларускаго пісьменніка у пачатку XIX сталецьця, бо раней 1809 года ніхто ешчэ не пісаў, а Енэіду Манькоўскаго трэба аднясьці да 1830 г., дзеля таго, што толькі ў гэтым часе пачынаюць гаварыць і пісаць аб гэтай паэме.



---

*) Biblioteka Warszawska 1845, том I, стр. 668, 671.
**) Dziennik Warszawski 1851. № 22 стр. 4 і № 24 стр. 4, 5 і 6.



Ян Баршчэускі у моладасьці.

# Беларускіе вершы Яна Баршчэўскаго.

---

## Ах чым-жэ твая, дзевэнька, галоўка занята?

Ах чым-жэ твая, дзевэнька, галоўка занята;
Ці табе не напрыкрылася чужая хата?
На каго-ж ты пазіраеш
Сваё сэрцэ прыкланяеш;
Ня будзе тут пуці.

* * *

Прывучыла-ж ты двох хлапцоў, як пташэк ў сеці.
Яны к табе дзень і ў ночы рады прыляцеці.
І ты к нім лятаеш,
Панскі двор пабуджаеш
На вялікі сьмех.

* * *

Прывучыла-ж ты лоўчаго, ён жэ і стралец,
І дудар быў некалі, і рускі пявец;
А стралец і дудар
Ня вялікі гаспадар;
Будзеш бяз хлеба.

* * *

Палюбіла садоўніка, і гэта ня ў пуць,
Ды ён жэ слуга гасподзькі, асьцярожна будзь;
Мадамай табе ня быць,
Дзяцей табе не вучыць,
Відзь ты ня ўмееш.

*1809 года.*

---

## Рабункі мужыкоў.

Як французкая сіла
Із за Дзьвіны наступіла,
Нам стала карціць
Штоб парадак прыўраціць
Аднака-ж сядзелі ціха,
Аж тут прыносіць ліха
Французоў у наш двор,
І нутка дзелаць здор.
Клеці паразьбівалі
Паноў нашых загналі,
Нас казалі пазьбіраць
І гарэлку піць і браць.
Французы нас пахвалялі,
Аб нашым краю пыталі
І на мігі нас прасілі,
Каб мы з імі двор лупілі.
І мы доўга там гулялі,
Што хацелі пілі, бралі:
Той браў плацья на вяроўку,
Чым абшыць жонкі шнуроўку,
Цыны, медзі сколькі мог,
Чым абліць дуду і рог...
Іншы быдло занімаець,
Другі адзене хапаець,
Іншы толькі есьць і пьець,
Другі шабляй куры бьець.

. . . . . . . . . . . . . . . . . .

Калі ужо так гуляюць
Пачулі, с пушэк стрэляюць,

„Галён! галён!“ закрычалі
І ўсе з двору высыпалі.
У *Кляссіцах* а дзьве мілі
Крывавую вайну чынілі.
Як прауцузы вышлі самі
Мужыкі былі панамі.
І калі так пагулялі
Раду сабе укладалі.
Першы Мінка сеў за стол,
Ў куты глядзіць як сакол,
На крэсьлі гдзе сядзеў пан,
Пуза як барабан.
А ногі як разапнець
Хоць з калёсамі праедзь.
„Помню я тые векі
Як жылі паноў прэдкі:
Нас у рэкруты ня бралі
Ах! што за паны бывалі!
Хоць на лбе валос і нет,
Ды ўжож вусы на ўвесь сьвет!
Два рукавы мелі красных
І ешчэ два з заду запасных,
З аднэй палы ў тых паноў
Семеро бы пашыў штаноў!
А гэты і нас паелі,
І самі ужо згалелі.
Полы сабе паабрэзалі,
Хвасты з заду паадсекалі
І цяпер ўжо усякай
Кусай з заду.......
. . . . . . . . . . . . . . . .
Прыдзеш у двор, баішся
Пакуль к пану зблїжышся
Доўга галаву скрабеш.....
. . . . . . . . . . . . . . . .
Ешчэ-ж гэта не канец
Палажыш на стол яец,
І тут ещэ страх бярэць
Ждаць, што пан запяець...
. . . . . . . . . . . . . . . .
Хай мне хоць пабьюць штаны
Да ўжо-ж ня будуць паны!
. . . . . . . . . . . . . . . .
Калі прапусьціш хоць дзень:
Дадуць — як у берасьцень!...
. . . . . . . . . . . . . . . . . .
Водка крэпка! — мера спора! —
Будзем піць — забудзім гора!...

Пойдзім ад хаты да хаты,
Ці хто голы, ці багаты;
А як нам будзіць весяло:
Сабярэцца ўсё сяло!...

. . . . . . . . . . . . . . . . .

Цыцы! братцы — урадні̇к надходзіць!“
А Дзямьян Грышку — за хахол водзіць
Як расхадзіўся Пракоп:
Ды Мінку па мордзе: хроп!
Відзіць Мінка — што тут худа!..
Абярнуўся: тупы, сюда;
Бедны! наўцёкі дзярэць:
А куды відзіць — туды бярэць!!!

. . . . . . . . . . . . . . . . . .

. . . . . . . . . . . . . . . . . .

*1812 года.*

---

## Гарэліца.

Ах ты-ж мая гарэліца, мая весялуха,
Цераз усю мяне ночку мучыла сукруха,
Ці мне-ж было гэта лоўка, што я усю ночку
Толькі відзеў у ва сьне парожную бочку.
А цяпер жэ я даждаўся, вось тут загуляю,
Гуга, гуга! загукаю і запаклікаю.

* * *

Ці мне-ж ў галаве хатка, ці дзеткі, ці жонка
І ці-ж у мяне з грашамі бразгаець машонка?
Слава-ж Богу што даждаўся, вось тут загуляю,
Гуга! гуга! загукаю і запаклікаю.

* * *

Калі-ж пойдзець уся хатка, дык жонцы вяроўка,
А мне с панам разбірацца ня будзець то лоўка.
А я-ж пану пакланюся: Панок, маё горэ,
Жыта касіў, сена грабіў цэлы дзень учора.
Вось тут пан прасьціць і міласьць пакажэць,
Ешчэ хлопцу чарку водкі мне прынесьць прыкажэць.

*1843 года.*



# Увагі да верша: Рабункі мужыкоў.

Верш гэты не дайшоў да нас цэлы. Урыўкі яго друкавалі Р. Подбэрэскі і А. Рыпіньск . Верш адносіцца да 1812 году і французкай вайны. Калі селянам загадалі біць ўсіх французоў, якіе аставаліся за арміей Наполеона, ўсе з гэтаго ахвотна карысталі і нават злажылося колькі разбойніцкіх банд, каторые нападалі на двары і грабілі іх. Напаткаўшы дзе пана або аканома, калі гэта былі іх крыўдзіцелі, распраўляліся з імі без міласьці.

**Верш 37.** Мінка — лёкай пана Маліноўскаго з вёскі Шнітоўкі. Гэтаго Мінку, камандзера разбойніцкай банды, пасьля злавілі і павесілі ў Шнітоўках.

**Верш 69.** Берасьцень — стары разбіты гаршчок, абвязаны бярозовым лыкам. Служыць для схову у ім мёду, смалы ці зёран.

